*Выходзіць з 20 снежня 1945 года*

# Настаўніцкая газета

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 77 (5408)
Чацвер, 27 чэрвеня 2002 года

# Мова, адукацыя, час

## У Нацыянальным інстытуце адукацыі прайшоў "круглы стол" па пытаннях беларускамоўнай адукацыі, наладжаны пад эгідай ЮНЕСКА і пры падтрымцы Міністэрства адукацыі

*У спрэчцы, як вядома, нараджаецца ісціна. Але вядома і іншае: колькі людзей, столькі ж і меркаванняў, кожнае з якіх прэтэндуе на тое, каб быць гэтай самай ісцінай.*

*Пакуль што цяжка сказаць, ці "нарадзіў" гэтую канчатковую ісціну "круглы стол" "Мова, адукацыя і час", праведзены пад эгідай ЮНЕСКА і пры падтрымцы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь у Нацыянальным інстытуце адукацыі, але бясспрэчна акурат іншае: удзельнікі "круглага стала" змаглі-такі выказаць самыя розныя меркаванні і канкрэтныя прапановы адносна набалелага апошнім часам пытання беларускамоўнай адукацыі. І самае галоўнае: свае прапановы змаглі адрасаваць непасрэдна адно аднаму прадстаўнікі зусім розных структур і арганізацый: сябры грамадскіх суполак і бацькоўскіх камітэтаў - кіраўніцтву Міністэрства адукацыі і наадварот; шараговыя настаўнікі - навукоўцам-лінгвістам, ад якіх залежаць якасць і змест падручнікаў; пісьменнікі і гісторыкі - кіраўнікам адукацыйных інстытутаў і г.д.*

*У гэткіх выпадках кажуць, што дыялог адбыўся. І сёння, улічваючы адмысловую значнасць гэтага дыялогу для настаўніцкай грамадскасці, мы прапануем нашым чытачам яго некаторыя найбольш важныя фрагменты, а таксама рэзалюцыю, якую прынялі ўдзельнікі.*

**Мікалай ФЯСЬКОЎ, начальнік галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь:** "Беларусь з'яўляецца своеасаблівай дзяржавай у вырашэнні нацыянальна-моўных пытанняў. Моўная адукацыя на Беларусі мае свае аб'ектыўныя прычыны. Гэта і блізкасць рускай і беларускай моў, і шматнацыянальны склад насельніцтва і інш. Дэфармацыі ў вырашэнні нацыянальна-моўных пытанняў у розныя часы вельмі негатыўна ўплывалі і ўплываюць на агульную гуманітарную (і асабліва моўную) падрыхтоўку вучняў і студэнтаў, на стаўленне да мовы значнай часткі насельніцтва нашай краіны і тым самым на яе развіццё і выкарыстанне ў розных сферах грамадскага жыцця.

Як вядома, дарэвалюцыйная школа ажыццяўляла дзяржаўную палітыку царскага ўрада, які быў зацікаўлены ў замацаванні сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту народаў. Русіфікатарская палітыка Расійскай імперыі не давала магчымасці развівацца нацыянальнай школе: усе навучальныя ўстановы на Беларусі працавалі толькі на рускай мове.

З 1919 года разгарнуўся працэс беларусізацыі. У сістэме народнай адукацыі ён пачаўся з пачатковай школы - найбольш масавай у той час. Ужо ў 1922 годзе 20 % чатырохгадовых школ Беларусі перайшлі на выкладанне ўсіх прадметаў па-беларуску. А ў 1924 годзе беларусізацыя, па сутнасці, закончылася ў пачатковай школе і актыўна працягвалася ў сямігадовай і сярэдняй.

Неабходна заўважыць, што спачатку ў "Дэкларацыі аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі", а затым у спецыяльным дэкрэце Літоўска-Беларускай ССР афіцыйна была прызнана поўная роўнасць моў, якія функцыянавалі на тэрыторыі рэспублікі. У сувязі з гэтым на Беларусі пачала складвацца сістэма полінацыянальнай школы: акрамя беларускіх школ, якія ў 20-30-я гады складалі 90 %, у рэспубліцы працавалі польскія (3,6 %), яўрэйскія (3,2 %), рускія (1,4 %), а таксама латышскія, літоўскія, украінскія, нямецкія, эстонскія і гэтак званыя змяшаныя (з рознымі мовамі навучання) школы (1,2 %).

Але ў сувязі з далейшым грамадска-палітычным развіццём краіны паступова склалася унітарная сістэма адукацыі. Нацыянальныя школы з іх этнічнымі і культуралагічнымі асаблівасцямі паступова ператварыліся ў два уніфікаваныя тыпы школ з беларускай і рускай мовамі навучання. Праўда, школы з беларускай мовай навучання функцыянавалі толькі ў сельскай мясцовасці. Так, у 1970 годзе ў рэспубліцы 33 % школьнікаў былі вызвалены ад вывучэння беларускай мовы, а ў горадзе Мінску такіх вучняў было 90 %. 80 % школьнікаў вучыліся на рускай мове. Усе вышэйшыя, сярэднія спецыяльныя і прафесійна-тэхнічныя навучальныя ўстановы працавалі толькі на рускай мове.

Аднак жа звернемся да бліжэйшага часу. У 1990 годзе прымаецца Закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь". Бясспрэчна, трэба было толькі вітаць гэта, бо на той момант практычна ўсе школы ў гарадской мясцовасці працавалі на рускай мове, за выключэннем 26 класаў у г. Мінску і Гродзенскай вобласці. Але зноў-такі што атрымалася? Ужо праз тры гады, у 1994/1995 навучальным годзе, 40,6 % школьнікаў вучацца на беларускай мове, школ з рускай мовай навучання застаецца толькі 239 (4,9 %), амаль уся пачатковая школа пераведзена на беларускую мову.

У Міністэрства адукацыі, органы кіравання адукацыяй на месцах паступалі шматлікія скаргі ад бацькоўскай грамадскасці, у якіх выказвалася незадавальненне прымусовым насаджэннем беларускай мовы, бо пераважная большасць дзяцей паступала ў першыя класы з рускамоўнага асяроддзя, са слабым лексічным запасам беларускіх слоў (а то і зусім яго адсутнасцю), што вельмі ўскладняла засваенне імі вучэбнага матэрыялу.

Нярэдка справа даходзіла да абсурду: настаўнік, які сам дрэнна валодаў беларускай мовай, вучыў на ёй дзяцей. Неаспрэчны факт, што выхаванне асобы школьнікаў у значнай меры залежыць ад асобы настаўніка, яго светапогляду, уласнага пераканання ў значнасці і неабходнасці таго, што ён робіць. А гэтага, на жаль, у значнай колькасці настаўнікаў, выхаваных у часы масавага вызвалення ад вывучэння беларускай мовы, не было. Невыпадкова спробы і некаторых ВНУ перавесці выкладанне асобных прадметаў на беларускую мову сутыкаліся з адмоўнымі адносінамі студэнтаў...

Пасля майскага 1995 года рэспубліканскага рэферэндуму сітуацыя зноў змянілася, пайшоў перавод навучання на рускую мову. І што ж мы маем сёння? Так, у гэтым навучальным годзе ў рэспубліцы функцыянуе 4506 агульнаадукацыйных школ. З беларускай мовай навучання - 2773 (61,5 %), з рускай - 1266 (28,1 %), з дзвюма мовамі - 464 (10,3 %), з польскай мовай навучання 2 школы і 2 школы - з літоўскай. У 3 школах (Мінск, Пінск, Гомель) вывучаюцца прадметы яўрэйскага нацыянальнага кампанента. На беларускай мове ва ўсіх тыпах школ навучаюцца 27,8 % дзяцей. І трэба сказаць праўду, што гэтыя паказчыкі змяншаюцца, асабліва ў гарадской мясцовасці, дзе на сённяшні дзень працуе ўсяго 49 школ з беларускай мовай навучання (21 - у Мінскай вобласці, 9 - у Гродзенскай, 5 - у Віцебскай, па 4 школы ў г.Мінску і Гомельскай вобласці, 2 - на Брэстчыне і 1 - на Магілёўшчыне).

Міністэрствам адукацыі ў жніўні 2001 года прынята ведамасная "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі", якая даведзена да ўпраўленняў і аддзелаў адукацыі і на аснове якой прыняты адпаведныя рэгіянальныя праграмы. Праграма закранае дзейнасць усіх ступеняў сістэмы адукацыі ад дашкольнага выхавання да паслядыпломнай адукацыі. Рэалізацыя праграмы пачынаецца з 2002 года, і гэта будзе доўгі, шматгранны і ўдумлівы працэс, без усялякага прымусу і паспешлівасці, бо ў нас ужо ёсць горкі вопыт 90-х гадоў.

Беручы пад увагу тое, што на сённяшні дзень пераважная колькасць дзяцей навучаецца ў рускамоўных школах, мы прынялі яшчэ адно рашэнне: з наступнага навучальнага года павялічваецца колькасць гадзін на вывучэнне беларускай мовы і літаратуры ў школах гэтага тыпу. Гэта толькі першапачатковыя меры, якія мы прымаем з улікам рэалій сённяшняга дня".

*(Працяг на 4-й стар.)*



Наталля Локцева - салістка унікальнага ансамбля акардэаністаў "Туці", які створаны на аддзяленні народна-інструментальнай творчасці Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры. У складзе калектыву Наталля ўжо тры гады, у яе рэпертуары розныя творы - ад класікі да сучасных эстрадных рытмаў.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.**

Юбілей

# Чвэрць стагоддзя ў свеце мастацтва

***Сёлета сваё 25-годдзе адзначае Наваполацкая дзіцячая мастацкая школа. Яна была ўтворана ў 1977 годзе і пачыналася з невялікай брашуркі - палажэння аб школе. На сённяшні дзень з яе сцен выйшла больш як 600 вучняў. Многія выпускнікі школы вядомы не толькі ў Беларусі, але і за мяжой.***

Чвэрць стагоддзя назад Наваполацкая дзіцячая мастацкая школа была адзінай падобнай установай ва ўсёй Віцебскай вобласці. Напачатку не было нават памяшкання, абсталявання, а самае галоўнае - вучэбных праграм. На першым часе сваёй дзейнасці ўстанова размясцілася ў Наваполацкай сярэдняй школе №8, праз два гады пераехала ў будынак вячэрняй школы і дагэтуль знаходзіцца там. Набірацца вопыту выкладчыкі ездзілі ў тады яшчэ Ленінградскую мастацкую школу і ў Мінскую, адзіную ў рэспубліцы.

25 гадоў для навучальнай установы - тэрмін немалы. За гэты час многае змянілася. Учарашнія вучні сёння ўжо выкладаюць у самой мастацкай школе, у Цэнтры пазашкольнай работы і ў іншых навучальных установах горада. Яны ж з'яўляюцца членамі Саюза мастакоў Беларусі, а іх работы ўпрыгожваюць многія прэстыжныя міжнародныя выстаўкі. Узровень падрыхтоўкі, паводле слоў дырэктара школы Віктара Букаціна, змяніў у пэўнай ступені абстаноўку ў мастацкім асяроддзі Наваполацка і адыграў значную ролю ў яе фарміраванні. У гэтым немалая заслуга і былых выкладчыкаў школы, сёння вядомых наваполацкіх мастакоў. Творчы і педагагічны вопыт Уладзіміра Шапо, Льва Аганава, Яўгена Панамарэнкі, Георгія Танковіча, Наталлі Каржыцкай і многіх іншых выкарыстоўваецца ў школе дагэтуль.

Вучні школы прымалі ўдзел у гарадскіх, раённых, абласных і міжнародных конкурсах. У 2001 годзе яны атрымалі сем дыпломаў, а сёлета чатыры вучні сталі дыпламантамі вельмі прэстыжнага конкурсу "Мая зямля". За апошніх некалькі гадоў выдадзены тры каталогі творчых работ, адзін выйшаў зусім нядаўна і прымеркаваны да юбілею школы. Але ўсё ж выкладчыкі школы ганарацца зусім не гэтымі дасягненнямі.

Успамінаюць самую першую выстаўку работ сваіх вучняў. Арганізавана яна была праз два гады пасля адкрыцця мастацкай школы ў кінатэатры "Космас". Як сказаў дырэктар, гэтая выстаўка зрабіла небывалае ўражанне. Многія вядомыя мастакі выказалі адкрыты недавер да работ юных наваполацкіх майстроў. Узровень быў настолькі нечаканы, што прыцягнуў увагу многіх навапалачан. "Пасля гэтай выстаўкі на нас звярнулі ўвагу", - успамінае Віктар Букацін.

Потым было яшчэ шмат выставак, пераважна ў Наваполацку. Апошняя, юбілейная, была адкрыта зусім нядаўна ў выставачнай зале музея гісторыі і культуры. На ёй прадстаўлены работы, выкананыя вучнямі за апошніх пяць гадоў. У выстаўцы прынялі ўдзел больш як пяцьдзесят аўтараў, многія з іх займаюцца ў школе і сёння. Вучыцца ў школу прыходзяць па ўнутранаму жаданню або па перакананню. Для дзяцей стварэнне кожнага твора - спосаб расказаць пра сябе, раскрыць сваё ўспрыманне жыцця.

Большасць работ маюць візуальны характар і не нясуць у сабе філасофскага сэнсу. Спалучэнне абстрактных плям, ліній і фарбаў ставарае асаблівы мастацкі рытм і каларыт убачанаму. Па словах таго ж Віктара Букаціна, нельга ставіць дзяцей у якія-небудзь рамкі. Кожны з іх павінен паспрабаваць сябе ў розных напрамках, як у рэалістычных, так і ў абстрактных. Пазнаёміўшыся з імі, юныя мастакі змогуць знайсці нешта сваё. Кожная работа - гэта адкрыццё, стварэнне новага, дагэтуль невядомага. Але выказаць сваё светабачанне так, каб цябе зразумелі іншыя, немагчыма без удзелу выкладчыка, які з'яўляецца і настаўнікам, і сябрам. Трэба ведаць не толькі, што сказаць, але і як гэта зрабіць. Выкладчык вучыць свайго выхаванца бачыць свет паэтычна і вучыцца ў яго сам. А працаваць з дзецьмі няпроста, і ў той жа час лёгка.

Навучанне ў школе ідзе па многіх прадметах: малюнак, жывапіс, кампазіцыя, лепка, гісторыя выяўленчага мастацтва. У старшых класах вывучаюць дэкаратыўнае афармленне. Здаюць тут і экзамены, толькі крыху інакш, чым у звычайнай школе. Усе прадметы звязаны паміж сабой, яны дапамагаюць нараджэнню яшчэ аднаго твора, адзначанага нястрымнай фантазіяй і непаўторнасцю.

У гэтым годзе школу скончылі 22 вучні. На ўрачыстым мерапрыемстве, прысвечаным юбілею, яны атрымалі пасведчанні аб заканчэнні мастацкай школы. Многія з іх прадоўжаць вучобу ў спецыяльных навучальных установах мастацкага профілю, некаторыя выберуць іншую прафесію. Але выкладчыкі спадзяюцца, што кожнаму з вучняў атрыманыя веды спатрэбяцца ў далейшым жыцці. Наступны навучальны год запросіць у школу новых вучняў, якія таксама будуць здзіўляць сваімі адкрыццямі ў бясконцым свеце мастацтва і творчасці.

**Вольга МІНЯНКОВА.**

Праблема

# "Усё лепшае - дзецям"?

Абставіны склаліся такім чынам, што ў Нацыянальным дзіцячым аздараўленчым летніку "Зубраня" давялося пабываць упершыню толькі нядаўна. Праўда, у гады майго далёкага дзяцінства мне прапаноўвалі туды пуцёўку на люты. Але я адмовілася – паняцце "летнік" асацыіравалася менавіта з летам.

Таму ў маім уяўленні летнік "Зубраня" быў калі не казачным палацам, дык нечым да таго падобным. І сапраўды летнім сонечным днём тут прыгожа - ад спякоты выратоўваюць прыгажуні-сосны, цудоўнае возера Нарач, а выхавальнікі і важатыя робяць усё магчымае, каб дзецям было ўтульна і весела. Але ж летнік функцыянуе круглы год. І за спякотным летам будзе доўгая восень з яе бясконцымі дажджамі, марозная зіма, не заўсёды цёплая вясна. І, акрамя шматлікіх забаўляльных мерапрыемстваў, дзецям, што тут адпачываюць, зразумела, патрэбны элементарныя бытавыя ўмовы для пражывання на працягу некалькіх тыдняў. А вось з гэтым якраз і ёсць праблемы.

"Дырэктар аздараўленчага летніка "Зубраня" Віктар Іванавіч Мехавіч на гэтай пасадзе няпоўныя два гады - з таго часу, як гаспадаром летніка стала Міністэрства адукацыі. Ён сказаў так: "Не хочацца гаварыць нічога дрэннага пра сваіх папярэднікаў, але..."

А справа ў тым, што з 1969 года, калі адкрыўся летнік, тут ні разу не было капітальнага рамонту. І безнадзейна састарэлі ўсе аб'екты, што знаходзяцца на яго тэрыторыі. Састарэла і сістэма санітарна-тэхнічнага абсталявання, водазабеспячэнне і каналізацыі. Шчыра кажучы, адбылося тое, што адбылося - за прыгожай шыльдай неяк адыходзілі на задні план паўсядзённыя клопаты аб элементарных рэчах. Праўда, у 1988 годзе Саветам Міністраў СССР была прынята Пастанова аб рэканструкцыі аб'ектаў летніка, але далей справа не зрушылася з месца.

"Дапамог" Чарнобыль. Восем гадоў, з 1993 па 2001, будаваўся пяты корпус і ўрэшце ўступіў у строй. Тут сапраўды ёсць усе умовы для пражывання і адпачынку дзяцей. І тым не менш існуе ў сувязі з гэтым адна вельмі казытлівая праблема. З новага, 2002, года 10 працэнтаў пуцёвак дазволена рэалізоўваць за поўны кошт ад 258 да 347 тысяч рублёў. Вядома, тыя, хто плацяць грошы, жадаюць пражываць менавіта ў гэтым корпусе. Але дзеці ёсць дзеці, усе хочуць адпачываць з камфортам, а не толькі тыя, у каго заможныя бацькі.

Сёлета адрамантавалі першы корпус "Лазурный". Замянілі сантэхніку, абсталяванне, пафарбавалі спальныя пакоі. На корпусе "Азёрны" вядзецца рамонт даху - тады можна будзе брацца за ўнутраныя работы.

Балючае пытанне - харчаванне дзяцей. З 1 чэрвеня на адно дзіця выдзяляецца 2 тысячы 961 рубель. Гэта, як вы разумееце, недастаткова для якаснага і каларыйнага харчавання. Увесну былі праблемы з мясам, рыбай. Зараз яны ўжо вырашаюцца. Існуе вялікая запазычанасць за камунальныя паслугі, ацяпленне, ваду. Міністэрства адукацыі, як зазначае Віктар Іванавіч, з разуменнем ставіцца да праблем летніка, імкнецца вырашаць фінансавыя пытанні, але і яго магчымасці абмежаваныя.

На думку начальніка летніка, сродкі на рэканструкцыю "Зубраняці" павінны быць закладзены ў бюджэце краіны на наступны год асобным артыкулам. Магчыма, нехта запярэчыць, але ж тое, што летнік "Зубраня" - унікальная з'ява, адзіная ў сваім родзе ўстанова такога кшталту - рэч агульнавядомая. І трапіць у "Зубраня" - запаветная мара кожнага школьніка. І бясплатныя пуцёўкі атрымлівае шмат таленавітых дзяцей, пераможцаў алімпіяд, удзельнікаў розных творчых конкурсаў, дзеці са школ-інтэрнатаў. А тое, што нехта мае магчымасць набыць пуцёўку за поўны кошт - гэта таксама добра, бо сродкі, атрыманыя ад рэалізацыі, пойдуць на неадкладнае вырашэнне праблем летніка.

"Зубраня" - гэта яшчэ і лёс важатых, выхавальнікаў, персаналу летніка.

Мой "экскурсавод" Ванда Станіславаўна Бойдак прыехала сюды больш за 25 гадоў назад з Гродзеншчыны. Тут выйшла замуж, нарадзіліся дзеці. Быў такі момант, што хацелася з'ехаць - з цяжкасцю вырашалася жыллёвае пытанне. Але потым у суседнім пасёлку Нарач быў пабудаваны жылы дом для персаналу летніка, і праблема адпала. Зараз Ванда Станіславаўна працуе тут метадыстам і шчыра кажа, што задача педагогаў - зрабіць так, каб дзеці адчувалі сябе камфортна, каб была павага да кожнага і ўсё гэта "перакрывала" пабытавыя дробязі. Між тым, у летніку строгая дысцыпліна - за парушэнне рэжыму прыходзіцца адпраўляць некаторых дадому. У мінулым годзе было некалькі такіх выпадкаў.

Увогуле, для таго каб палепшыць матэрыяльнае становішча, дастаткова разлічвацца з адным з карпусоў - здаць у арэнду багатай фірме. Але ці рэальна зрабіць гэта на тэрыторыі "дзіцячай рэспублікі"? Якім прыкладам будуць "вясёлыя" хлопцы для дзятвы?

Гэтымі днямі ў "Зубраня" завітала чарговая змена - выхаванцы этнічных калектываў, гурткоў, энтузіясты роднай мовы, культуры. І, вядома, пасля адпачынку павязуць з сабой масу ўражанняў. Стаючых і, на жаль, не вельмі. А так бы хацелася, каб лозунг "Усё лепшае дзецям!" не страціў сваёй актуальнасці і ў нашай цывілізаванай краіне.

**Ала ШАЎЦОВА.**

Навіны

# Якасць адукацыі - вышэйшай пробы

***З 16 тысяч выпускнікоў сталічных сярэдніх агульнаадукацыйных навучальных устаноў залатыя і сярэбраныя медалі атрымалі 1183. Узнагароды самай вышэйшай пробы - у 900 чалавек.***

Як расказаў старшыня камітэта па адукацыі і справах моладзі Мінгарвыканкама Міхаіл Ціцянкоў, у мінулым годзе 59 працэнтаў выпускнікоў сталічных школ, гімназій і ліцэяў паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, 14 працэнтаў - у сярэднія навучальныя ўстановы. Гэтыя лічбы і факты сведчаць аб тым, што ў Мінску створаны ўсе ўмовы для атрымання якаснай, рознабаковай адукацыі, лічыць Міхаіл Ціцянкоў. Паводле яго слоў, сёння маладыя людзі могуць арымаць веды па 135 рабочых спецыяльнасцях. У горадзе ёсць шэсць прафтэхкаледжаў, якія рыхтуюць спецыялістаў высокага ўзроўню.

# Новыя вучэбныя праграмы па фізкультуры

***Новыя вучэбныя праграмы па фізкультуры для 6-7 класаў з'явяцца ў школах рэспублікі ўжо ў наступным навучальным годзе. Яны нацэлены перш за ўсё на захаванне і паляпшэнне здароўя вучняў. Пра гэта 19 чэрвеня на пасяджэнні "круглага стала" паведаміў журналістам намеснік дырэктара Рэспубліканскага цэнтра фізічнага выхавання і спорту навучэнцаў і студэнтаў пры Міністэрстве адукацыі Віктар Аўчароў.***

За апошнія пяць гадоў у галіне фізкультуры і спорту зроблена нямала, адзначылі ўдзельнікі "круглага стала". Так, на 1 тысячу 300 спецыялістаў павялічылася колькасць выкладчыкаў фізкультуры ў дзіцячых дашкольных установах рэспублікі. Толькі ў мінулым годзе былі здадзены ў эксплуатацыю 16 спартыўных залаў і два басейны. Усяго ж у сістэме адукацыі рэспублікі налічваецца 16 тысяч 407 спартыўных збудаванняў, што складае 70 працэнтаў ад усёй спартыўнай базы Беларусі. Паводле даных Міністэрства спорту і турызму, у секцыях і гуртках займаюцца прыкладна 557 тысяч навучэнцаў. А гэта - 27 працэнтаў ад агульнай колькасці вучнёўскай моладзі.

# Поспех юных спартсменаў

***Паспяхова выступілі беларускія спартсмены на Міжнародных спартыўных юнацкіх гульнях краін СНД, Балтыі і рэгіёнаў Расіі. У Маскве нашы землякі заваявалі 34 узнагароды - па 14 залатых і бронзавых і 6 сярэбраных медалёў.***

Як паведамілі ў Міністэрстве спорту і турызму, найбольшы медальны ўклад унеслі лёгкаатлеты. Яны паклалі ў капілку каманды 13 узнагарод, 7 з якіх - вышэйшай пробы. У апошнія два дні гульняў выступілі нашы тэнісісты. На іх рахунку 5 залатых і 1 сярэбраны медаль. Адзначым "бронзу" гандбалістаў і валейбалістак. Нядрэнна выступілі таксама маладыя беларускія коннікі, фехтавальшчыкі і барцы.

# "Спячы паліцэйскі" для кожнай школы

***Каля кожнай сталічнай школы, тэрыторыя якой прылягае да праезнай часткі, неабходна ўстанавіць штучнае ўзвышэнне накшталт "спячага паліцэйскага". З такой ініцыятывай выступіў дэпутат Мінскага гарадскога савета Юрый Данькоў. Ён прапанаваў калегам-дэпутатам падтрымаць гэту ідэю і звярнуцца да прадпрыемстваў, арганізацый і жыхароў сталіцы дапамагчы сабраць сродкі. Аб гэтым Юрый Данько расказаў на сустрэчы з журналістамі 19 чэрвеня ў Гарадскім прэс-цэнтры Дома прэсы.***

Наяўнасць на дарогах "спячага паліцэйскага" - найбольш эфектыўны сродак, які дае магчымасць павысіць пільнасць вадзіцеляў, асабліва там, дзе размешчаны школы, лічыць дэпутат. Цяпер у горадзе ўстаноўлена 27 такіх канструкцый. У асобных раёнах Мінска ДАІ робіць гэта за кошт сродкаў адміністрацый. Але грошай не хапае, таму і неабходна дапамога грамадскасці. Юрый Данькоў паведаміў таксама, што праблема дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам дзяцей будзе разглядацца 27 чэрвеня на пасяджэнні сесіі гарадскога савета. Паводле даных Дзяржаўтаінспекцыі сталіцы, у гэтым годзе зафіксавана 69 такіх дарожна-транспартных здарэнняў. У выніку пацярпела 71 дзіця. Усяго за пяць месяцаў 2002 года ў горадзе здарылася 4200 ДТЗ, загінулі 52 чалавекі, 517 атрымалі раненні.

# Адкрыецца беларускамоўная гімназія

***У новым навучальным годзе на базе сталічнай школы нумар 23 адкрыецца гімназія з беларускай мовай навучання.***

Як расказаў старшыня камітэта па адукацыі і справах моладзі Мінгарвыканкама Міхаіл Ціцянкоў, у гімназічных класах (а набор туды вядзецца ўжо сёння) выкладанне будзе весціся на беларускай мове. Аднак на працягу пэўнага часу ў гімназіі захаваюцца і класы з выкладаннем на рускай мове. Паводле слоў Міхаіла Ціцянкова, амаль 8 працэнтаў сталічных школьнікаў вучацца на роднай мове. Што ж датычыцца колькасці вучняў у класах, дзе выкладанне вядзецца на беларускай мове, то, на думку Міхаіла Ціцянкова, напаўняльнасць іх павінна быць прыкладна такой жа, як і ў рускамоўных класах.

**(Па матэрыялах БЕЛТА.)**

